


ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

Цана паза Нямеччынай: ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 40 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэсо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 36 (167) Нядзеля 13 верасьня 1953 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 7

# Амэрыка унезалежніваецца

Замежная палітыка Амэрыкі на працягу апошніх год не заўсёды была дакладным адбіцьцём імкненьняў Вашынгтону, як і настрояў бальшыні амэрыканскага грамадзянства. Амэрыка, будучы зьвязанай з Эўропай і не жадаючы аслабляваць гэтае сувязі, нярэдка адыходзіла ад сваей аснаўной палітычнай лініі, каб дагадзіць Эўропе, ці, іншымі словамі, ішла ёй на кампраміс. Гэта датычыла ў першую чаргу дачыненьняў да камунізму наагул і антыкамуністычнае палітыкі на Далёкім Усходзе ў васаблівасьці.

Адмова Амэрыкі ад «палітыкі вызваленьня», праклямаванай рэспубліканцамі ня толькі перад прэзыдэнцкімі выбарамі, але і ў пачаткавым пэрыядзе іхнае ўлады, ды зьняцьце з парадку дня праекту рэзалюцыі прэзыдэнта Айзэнгаўэра аб нявызнаваньні савецкіх нарушэньняў ялтанскага дагавору ў вялікай меры й былі вынікам гэтага кампрамісу з капітулянцкімі тэндэнцыямі Заходняй Эўропы. Імкненьне дагадзіць Эўропе, перадусім Вялікабрытаніі, асабліва моцна заважыла на амэрыканскай палітыцы на Далёкім Усходзе. Калі Амэрыка вяла карэйскую вайну з выразным намерам, каб гэтай вайны ня выйграць, калі ўшаноўвала недатыкальнасьць усіх тых камуністычных ваенных базаў, што знаходзіліся паза межамі Паўночнае Карэі, калі адклікала із становішча галоўнакамандуючага на Далёкім Усходзе генэрала Мэк Артура, які прапанаваў адзіна правільную стратэгію ў гэтай вайне, якая адкрывала шлях да поўнае перамогі над камуністымі, дык ува ўсім гэтым быў націск Заходняй Эўропы, зь якой Амэрыка ўважала за патрэбнае аж да такой меры лічыцца.

Гэтае лічэньне з Эўропай, асабліва ў сувязі з карэйскім пытаньнем, нярэдка стварала дзіўныя парадоксы. Бо вось бадай што ўвесь цяжар карэйскай вайны ўзяла Амэрыка на свае собскія плечы, панесла ў ёй вялізарныя страты ў людзях і матарыялах, а ейная ініцыятыва ў гэтай вайне была непамерна зьвязваная Вялікабрытаніяй, удзел якой у гэтай вайне быў амаль што толькі сымбалічны, бо не ўважала яна за патрэбнае выслаць на карэйскі фронт навет цэлай дывізіі сваіх войскаў. Калі хадзіла пра ўклад у вабарону перад супольным ворагам, дык Эўропа давала мінімум, хаця й магла здабыцца на большае, затое ў вырашэньні праблемаў гэтае абароны прэтэндавала ня толькі да роўнага з Амэрыкай голасу, што ня было-б яшчэ дзіўным, але паралiжавала разумную амэрыканскую акцыю, ведзеную ў інтарэсах самой-жа Эўропы. Найлепей гэта выявілася ў дасюлешняй гісторыі тварэньня эўрапэйскай абароннай супольнасьці. Як ведама, Амэрыка прывязвае вялізарную вагу да эўрапэйскае арміі, гатовая даваць для яе вялікую фінансавую помач, тымчасам справа гэтая з выключнай віны заходняэўрапэйскіх дзяржаваў упёрлася на мёртвым пункце і мала ёсьць надзеі, каб яна калі-небудзь зрэалізавалася. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр у сваей прамове з 16 красавіка высунуў некалькі разумных перадумоваў, пры выкананьні якіх бальшавікі далі-б довад шчырасьці сваіх мірных гэстаў і расчысьцілі-б дарогу да канкрэтных перагавораў. Але ўсьлед за гэтым 11 травеня брытанскі прэм'ер Чэрчыль пасьпяшыў аслабіць гэтую амэрыканскую пазыцыю, аўтарытэтна заяўляючы, што Савецкі Саюз узапраўды эвалюцыянуе ў кірунку мірнай палітыкі, і дамагаючыся гаварыць зь ім базь ніякіх папярэдніх перадумоваў. Бадай што ўсе краіны Заходняй Эўропы зьяўляюцца сяньня жабракамі Амэрыкі й знаходзяцца на ейным утрыманьні. З гэтае амэрыканскае помачы яны ахвотна карыстаць, але, з другога боку, уважаюць за пункт свайго гонару знаходзіцца ў апазыцыі да амэрыканскай замежнай палітыкі, паралiжуючы ў вялікай меры ейную антыкамуністычную акцыю. Вытварылася такое палажэньне, што ў дачыненьні да Амэрыкі Заходняя Эўропа адыгрывае ролю прыказачнага пятага кола ў возе, якое нічым не памагае ў язьдзе, але клопатаў прыносіць ня мала.

Такая пазыцыя эўрапэйскага Захаду пачынае ўрэшце дэнэрваваць Амэрыку. Там што раз часьцей пачынаюць падносіцца галасы, што паколькі Амэрыка сама нясе фактычную адказнасьць за лёс вольнага сьвету і дае аснаўны ўклад у ягоную абарону, непрапарцыянальна вялікі ў параўнаньні зь іншымі заходнімі дзяржавамі, патолькі мае яна права й павінна весьці сваю палітыку самастойна, не агледаючыся на сваіх саюзьнікаў. Ужо нябожчык сэнатар Робэрт Тэфт, як правадыр рэспубліканскай фракцыі ў сэнаце, у сваей апошняй прамове, сказанай хутка перад сьмерцю, паставіў быў дамаганьне грунтоўнай рэвізіі амэрыканскай замежнай палітыкі. Ён радзіў, што, паколькі Эўропы нельга аздаравіць амэрыканскімі далярамі, Амэрыка павінна яе пакінуць ейнаму собскаму лёсу, а што датычыцца карэйскай палітыкі, ён дамагаўся ў ей для Амэрыкі вольнае рукі й не вязаньня сябе з палітыкай Задзіночаных Нацыяў.

Прэзыдэнт Айзэнгаўэр тады афіцыяльна выступіў супраць такой канцэпцыі сэнатар Тэфт, г. зн. на шлях поўнага ўнезалежненьня. Амэрыка ня можа пакінуць сваіх саюзьнікаў. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр, як галава дзяржавы, іначай і ня мог заявіць. Але апошнія выпадкі паказваюць, што Амэрыка, пры-

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# КАНЕЦ ЦІ ПЕРАПЫНАК?

### (НАВАКОЛ МЮНХЭНСКАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ)

Пачынаючы зь 1-га верасня салён гатэлю «Рэгіна», дзе канфэравалі амаль ад раньня да познай ночы галоўным чынам дэлегаты Парыскага Блёку, пачаў што раз радзець публікай, а сяньня (4. 9. 53) зусім апаражніўся.

Чым гэта ўсё кончылася? Якія вынікі з гэтай так напружанай і нэрвовай роўна трохмесячнай канфэрэнцыі, мэтай якой, як ведама, было стварэньне запраўднага міжнацыянальнага каардынацыйнага цэнтру антыбальшавіцкага змаганьня?

Бязумоўна, вывады аб канчальных выніках самой канфэрэнцыі рабіць сяньня было-б яшчэ за рызыкоўна. Ёсьць аднак рад дадзеных, на аснове якіх можна з пэўнасьцю сьцвердзіць, што трохмесячная канфэрэнцыя ў Мюнхэне мела вялікія пазытыўныя дасягненьні, і то ня толькі для паняволеных бальшавізмам нерасейскіх народаў у кірунку стварэньня супольнага антыбальшавіцкага фронту, але й для Амэрыканцаў, тых Амэрыканцаў, якія запраўды шчыра шукалі сабе саюзьнікаў паміж паняволеных бальшавізмам народаў дзеля змаганьня з апошнім. І калі сяньня Амэрыканскі Камітэт яшчэ хістаецца зацьвердзіць ці не зацьвердзіць новастворany МАКЦ, а ў афіцыйным камунікаце для прэсы адмірал Стывэнс заклікае яшчэ раз усю дэмакратычную эміграцыю да задзіночаньня, бачучы яе яшчэ не дастаткова прадстаўленай і ў МАКЦ-е, то нельга аднак не дабачваць, што, паза гэтымі ўсімі афіцыяльнымі заявамі, прабіваюцца й пэўныя ноткі прагрэсу сярод Амэрыканцаў і прынятых імі актаў, якія сьветчаць аб поступе і глыбейшым зразуменьні (хоць мо' яшчэ ня зусім) нацыянальнай праблемы.

Першай такой праявай зразуменьня Амэрыканцамі нацыянальнай праблемы паняволеных народаў, а разам з гэтым і азнакай, якая сьветчыла аб шуканьні Амэрыканскім Камітэтам аб'ектыўнага выхаду з заіснаваўшага ненармальнага палажэньня, быў акт разьвязаньня КЦАБ-у. Арганізацыя гэтая пры такой яе арганізацыйнай структуры, а галоўнае — палітычным кірунку ейных кіраўнікоў — Расейцаў, захапіўшых у ей кіраўніцтва, намагалася падмяніць там запраўдныя нацыянальныя прадстаўніцтвы рознымі авантурыстычнымі й дывэрсійнымі крэатурамі, у бальшыні выпадкаў тымі-ж Расейцамі для гэтае мэты ад гок і створанымі. Не магла, зразумела, гэткая арганізацыя (КЦАБ) адыграць інакшай ролі, як толькі нэгатыўную, каб не сказаць проста, што арганізацыя гэтая якраз адказвала жаданьням бальшавікоў з прычыны неэфэктоўнасьці ейных уплываў на паасобныя народы з аднаго боку, і ейнага дывэрсійнага, раскладальнага дзеяньня на запраўдныя нацыянальна-вызвольныя рухі — з другога.

Трохмесячная канфэрэнцыя ў Мюнхэне, на якую прыбылі ўзапраўды кваліфікаваныя й аўтарытэтныя прадстаўнікі паняволеных нерасейскіх народаў, іхная саліднасьць, павага й сіла аргумэнтацыі і адыйгралі тую ролю, што Амэрыканскі Камітэт, ня хістаючыся, прыняў дэцызію зьліквідаваць тое асінае гняздо КЦАБ-у, якое стаяла на перашкодзе як нацыянальным прадстаўніцтвам паняволеных народаў, гэтаксама й Амэрыканцам. А гэтага ўжо нельга ня лічыць за вялікі крок наперад.

Падругое, трохмесячная канфэрэнцыя пад сталым наглядам ды пры ўдзеле найбольш адказных прадстаўнікоў Амэрыканскага Камітэту ня можа прайсьці для іх незаўважанай. Яны не маглі не пабачыць розьніцы між запраўднымі імкненьн-

(Заканчэньне на 2-ой балоне)



# Палітычныя Навіны

### (1-7 ВЕРАСЬНЯ 1953)

**Дальлес пагражае камуністым.** Міністар замежных справаў ЗША Дальлес у сваей прамове, сказанай перад Амэрыканскім Легіёнам 2 верасьня, зьвярнуўся да камуністычнага Кітаю зь перасьцярогай, што ягонае эвэнтуальнае збройнае ўмяшаньне ў індакітайскую вайну пацягне за сабой «цяжкія для яго вынікі», якія ня будуць абмяжоўвацца толькі да Індакітаю. Калі-ж камуністыя асьмеляцца ўзнавіць агрэсію на Карэі, дык яны «не павінны ўжо лічыцца з тым, што гэтым разам у Манджурыі будуць мець упрывілеяванае недатыкальнае заплечча». У сувязі з гэтым Амэрыканскі Легіён прыняў рэзалюцыю, у якой дамагаецца ўжыцьця ўсіх мілітарных сяродкаў уключна з атамнай і вадароднай бомбай у выпадку, калі палітычная канфэрэнцыя ў справе Карэі ня дасьць ніякіх пазытыўных вынікаў.

**Заходняя нота Савецкаму Саюзу ў справе Нямеччыны.** У вадказ на савецкія носты ў справе Нямеччыны з 4 і 15 жніўеня тры заходнія вялікадзяржавы — ЗША, Вялікабрытанія й Францыя ў сваей ноце з 2 верасьня запрашаюць Савецкі Саюз адбыць канфэрэнцыю ў гэтай справе ў Люгано 15 кастрычніка сёлета. Адначасна заходнія дзяржавы запрапанавалі наступны парадак дня канфэрэнцыі: 1. справа правядзеньня агульнанямецкіх свабодных выбараў, якія будуць істотным крокам на дарозе да задзіночаньня Нямеччыны й заключэньня зь ёй мірнага дагавору, 2. канчальнае пагадненьне ў справе мірнага дагавору з Аўстрыяй. Савецкае дамаганьне, каб спачатку стварыць часовы агульнанямецкі ўрад з прадстаўнікоў урадаў Усходняй Нямеччыны й Заходняй Нямеччыны і склікаць на працягу шасьці месяцаў мірную канфэрэнцыю дзеля падпісаньня мірнага дагавору яшчэ перад задзіночаньнем Нямеччыны ды запрасіць на гэтую канфэрэнцыю й чырвоны Кітай, заходнія дзяржавы катэгарычна адкінулі.

**Вымена ваеннапалонных афіцыяльна закончаная.** Вымена ваеннапалонных у Карэі афіцыяльна закончылася 6 верасьня. Задзіночаныя Нацыі перадалі камуністым роўна 70,158 Паўночных Карэйцаў і 5,639 камуністычных Кітайцаў. Камуністыя выдалі Задзіночаным Нацыям 7,842 Паўдзённых Карэйцаў і 4,910 жаўнераў альянцкіх. Амэрыка абвінавачвае камуністых, што згодна зь ейнымі дадзенымі камуністыя выдалі ня ўсіх ваеннапалонных збройных сілаў ЗН.

**Дзе адбудзецца палітычная канфэрэнцыя ў справе Карэі?** ЗША зьвярнуліся да швэдзкага ўраду, які мае сваё пасольства ў Пэкіне, з просьбаю запытаць кітайскі камуністычны ўрад, ці ён возьме ўдзел у палітычнай канфэрэнцыі ў справе Карэі. Адначасна ЗША запрапанавалі на месца гэтай канфэрэнцыі Жэнэву, Сан Францыско або Гонолюлю і зазначылі, што яны згаджаюцца й на іншае месца, калі-б ніводнае з вышэй успомненых камуністым не адказвала.

**Саветы маюць памагчы ў вадбудове Паўночнай Карэі.** Камуністычнае радыё ў Пэкіне паведаміла 3 верасьня, што Савецкі Саюз асыгнуе адзін мільярд рублёў на адбудову зьнішчаных вайной прамысловых аб'ектаў Паўночнай Карэі. Між іншым, за гэтую суму маюць быць адбудаваныя вялізарныя электрастанцыі на рацэ Ялю, якія ў 1952 г. былі зьнішчаныя бамбардаваньнем Задзіночаных Нацыяў.

**ЗША прапануюць перагаворы ў справе Індакітаю.** Амэрыканскі міністар замежных справаў Дальлес на сваей апошняй тыднёвай прэсавай канфэрэнцыі заявіў, што Амэрыка гатовая да перагавораў у справе дасягненьня міру ў Індакітаі і ў справе іншых азіяцкіх праблемаў, калі камуністыя будуць супрацоўнічаць у справе ўстанаўленьня трывалага міру ў Карэі. Ён запрапанаваў, што гэтыя пытаньні могуць быць абмеркаваныя на другой канфэрэнцыі, пасьля палітычнай канфэрэнцыі ў справе Карэі, да якой былі-б прыцягнутыя далейшыя краіны, між іншым тры дзяржавы Індакітаю: Ветнам, Камбоджа й Ляёс.

**І Пэкін за перагаворамі ў справе Індакітаю.** Пэкінскае радыё падало 3 верасьня, што кітайская народная рэспубліка ўважае, што ўжо надыйшоў час, каб распачаць перагаворы ў справе Індакітаю. Правадыр камуністычных паўстанцаў у Індакітаі Го-Чы-Мін заявіў 2 верасьня, што Індакітай толькі ў тым выпадку згодзіцца на мір, калі краіна атрымае «запраўдную незалежнасьць і адзінства».

**Ціта за інтэрнацыяналізацыю Трыесту.** Югаславянскі прэзыдэнт маршал Ціта ў сваей прамове, сказанай 6 верасьня ў горадзе Окроглiца блізка італьянскай граніцы, запрапанаваў, як найлепшую магчымасьць заканчэньня югаславянска-італьянскіх спрэчак, надаць Трыесту статус інтэрнацыянальнага гораду, а тэрыторыі, паложаныя за гэтым горадам, прылучыць да Югаславіі.

**Справа Марока ня будзе разглядацца на Радзе Бясьпечнасьці.** Дамаганьне азіяцкіх і афрыканскіх краінаў заняцца пытаньнем Марока 3 верасьня не здабыло вымаганай бальшыні 7 сяброў у Радзе Бясьпечнасьці. За прапазыцыю галасавалі Савецкі Саюз, нацыянальны Кітай, Чылі, Пакістан і Лібанон. ЗША, Вялікабрытанія, Францыя, Калюмбія й Данія высказаліся супраць, а Грэцыя паўстрымалася ад голасу. Краіны, што галасавалі супраць праекту, матывавалі гэта тым, што палажэньне ў Мароко не загражае міру. Ня гледзячы на гэта, 8-ая пленарная сэсія ЗН, якая распачнецца ў Нью Ёрку 15 верасьня, пытаньне Мароко й Тунісу паставіла на парадку дня й будзе яго абмяркоўваць.

**Чэрчыль перабудоўвае брытанскі ўрад.** Брытанскі прэм'ер Чэрчыль, які пасьля доўгага адпачынку пераняў свае абавязкі, паведаміў 3 верасьня аб рэканструкцыі свайго габінэту. Зьмена не датычыць міністэрства замежных справаў, якім і надалей будзе кіраваць Ідэн. Затое зьмененыя міністры міністэрства каардынацыі, міністэрства забясьпечаньня й міністэрства заморскага гандлю.

**ЗША памагаюць Пэрсіі.** Задзіночаныя Штаты ў канцы мінулага тыдня прызналі Пэрсіі дадатковую гаспадарскую помач у суме 45 мільёнаў даляраў. Гэтыя грошы былі прызнаныя прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам у рамах мілітарнай і тэхнічнай помачы для Пэрсіі і маюць на мэце павышэньне жыцьцёвага стандарту ўсіх слаёў пэрскага насельніцтва. Некалькі дзён раней ЗША прызналі Пэрсіі тэхнічную помач на суму 23 мільёнаў даляраў.

**Ветнамскія нацыяналістыя ўзмацняюць антыфранцускую акцыю.** Камуністычная ветнамская армія прадпрыняла крокі, каб перацягнуць на свой бок ветнамскіх нацыяналістых, якія задзіночыліся ў новастворaным «Нацыянальным Руху за мір». Гэтая арганізацыя, да якой належаць вядучыя духоўнікі ўсіх рэлігійных групаў Індакітаю, абвесьціла 5 жніўеня праклямацыю, у якой закідаецца Францыі вядзеньне ў Індакітаі «імпэрыялістычнай вайны». Вярхоўныя францускія ўрадаўцы ў Індакітаі ўважаюць гэтую праклямацыю за «вельмі сур'ёзнае зьявішча».

**Справа ваеннапалонных у ЗН.** Генэральны сакратар ЗН Даг Гамэрск'ельд афіцыяльна падаў да ведама, што 8-ая пленарная сэсія ЗН, якая распачнецца 15 верасьня ў Нью Ёрку, паставіць на парадку дня адмову СССР звольніць усіх ваеннапалонных другой сусьветнай вайны. Асновай для дэбатаў над гэтым пытаньнем будзе справаздача зь дзейнасьці Камісіі для справы ваеннапалонных, якая цяпер працуе ў Жэнэве. Паводля матарыялаў, пададзеных гэтай Камісіі Заходняй Нямеччынай, Італіяй і Японіяй, роўна 2,3 мільёнаў ваеннапалонных гэтых дзяржаваў трымаюць у сябе Саветы.

**Самаліквідацыя калгасаў у Ўсходняй Нямеччыне.** Да палавіны жніўеня сёлета роўна 1,486 із агульнай колькасьці 5,600 калгасаў у Ўсходняй Нямеччыне самаразьвязаліся на аснове апошніх палёгкаў у сувязі зь нядаўна ўведзеным у Ўсходяй Нямеччыне «новым курсам».

**Бэдэль Сьміт аб мілітарнай магутнасьці СССР.** Заступнік міністра замежных справаў ЗША Бэдэль Сьміт, які пасьля другой сусьветнай вайны быў амэрыканскім амбасадарам у Маскве, у сваей нядаўнай прамове ў Чыкаго зьвярнуў увагу на тое, што магутнасьць Задзіночаных Штатаў і іхных саюзьнікаў зьяўляецца яшчэ недастатковай, каб загарантаваць бясьпечнасьць вольнага сьвету перад варожым да яго Савецкім Саюзам. Ён між іншым заявіў: «Савецкі Саюз мае нячуваную мілітарную сілу. Ён мае ўсе магчымасьці гэтую сваю сілу выкарыстаць. Ён мае найвялікшую армію ў цэлым сьвеце. Ён мае атамную бомбу і мае ўсе магчымасьці гэтай бомбай паслугоўвацца. Верхаводы Савецкага Саюзу ўжо ня раз даказалі сваю няпрымірлівую варожасьць да нашага спосабу жыцьця й нашых ідэялаў».

**Амэрыканцы супраць ізаляцыянізму.** Амэрыканскі Інстытут др-а Галюпа дзеля дасьледваньня публічнай апініі абвесьціў 5 верасьня вынікі апытаньня амэрыканскіх грамадзян, зь якіх вынікае, што 78% усіх Амэрыканцаў адкідаюць палітыку ізаляцыянізму й высказваюцца за супрацоўніцтвам ЗША зь іншымі нацыямі сьвету. Толькі 15% апытваных адкідаюць супрацоўніцтва ЗША зь іхнымі альянтамі, а 7% паўстрымалася ад заняцьця становішча. Характэрна, што 85% былых удзельнікаў другой сусьветнай вайны высказаліся супраць ізаляцыянізму.

**Спроба самагубства савецкага пасла ў Тэгеране.** Савецкае пасольства ў Тэгеране войстра выступіла супраць распаўсюджваных чутак аб спробе самагубства пасла СССР у Пэрсіі Анатоля Лаўренцьева, выясьняючы, што ён меў атак сэрца й цяпер зьяўляецца хворы. Аднак пэрскія газэты здагадваюцца, што Лаўрэньцьеў быў абвінавачваны за няўдачу ў спробе захвату ўлады ў Пэрсіі камуністымі й адкліканы ў Маскву, дзеля чаго намагаўся пакончыць самагубствам.

